Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

2 мая 1998 года
СУБОТА
№ 33 (113)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Аўтобус для дачнікаў

З 25 красавіка і па выхадных днях (суботах і нядзелях) пачаў хадзіць аўтобус па маршруту Івацэвічы—Дачны пасёлак (што размешчаны за Любішчыцамі). Графік яго руху — раніцой адпраўляецца з аўтавакзала райцэнтра ў 8 гадзін 35 хвілін, вечарам у 20.05.

Аўтобусны прыпынак у Дачным пасёлку зрабілі на ўездзе. Калі ўлічыць, што дачныя домікі раскінуліся ў даўжыню на кіламетр—другі, то можна зразумець прапановы дачнікаў (асабліва пенсіянераў) перанесці аўтобусны прыпынак у глыб пасёлка.

Дарэчы, аб тым, што аўтапарк № 14 адкрыў новы маршрут не было нідзе паведамлена, таму першыя рэйсы аўтобус рухаўся амаль пустым.

### Хочаш вучыцца ездзіць — плаці

Маці аднаго з вучняў гарадскіх школ Івацэвічаў, якая не назвалася, пазваніла ў рэдакцыю і спыталася аб тым, што здарылася, калі нават у вучэбна-вытворчым камбінаце за ваджэнне аўтамабіля і трактара вучням трэба плаціць грошы.

Каб адказаць на пытанне гэтай жанчыны, мы звярнуліся да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Цытуем артыкул 49-ты: "Кожны мае права на адукацыю. Гарантуецца даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй і прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі..."

Так запісана ў Асноўным Законе нашай рэспублікі. Каб даведацца што-колечы, мы пазванілі ў Косаўскі вучэбна-вытворчы камбінат. Яго завуч М. М. Крывецкі не здзівіўся пытанню аб плаце за ваджэнне.

— Так, згодна з рашэннем райвыканкама, — сказаў ён, — з навучэнцаў, а гэта школьнікі, мы бяром за ваджэнне ад 15 да 30 тысяч рублёў кожны месяц. Для будучых шафёраў гэта выходзіць даражэй, для трактарыстаў — танней. Такое ж становішча і ў іншых вучэбна-вытворчых камбінатах. Чым выклікана? Цяжкім фінансавым становішчам. Органы адукацыі — гэта бюджэтная арганізацыя. А там грошай не хапае...

Вось такое тлумачэнне. З аднаго боку, Канстытуцыя сцвярджае, што адукацыя ў нас бясплатная, гэта значыць, за кошт дзяржавы ці, дакладней кажучы, за кошт падаткаплацельшчыкаў; а з другога боку, у дзяржавы не хапае грошай, каб выконваць свой жа Асноўны Закон. Выходзіць, запісваем адно, а робім іншае, што супярэчыць Канстытуцыі.

Тут жа ўзнікае і наступнае пытанне: "Няўжо такі слабы бюджэт менавіта нашага раёна, што выклікала неабходнасць прымаць рашэнне райвыканкама?"

Звернемся да афіцыйнай раённай статыстыкі. Летась, напрыклад, гэты бюджэт быў перавыкананы. За першы квартал гэтага года ў бюджэт паступіла звыш 25 працэнтаў запланаваных сродкаў. Значыць, з бюджэтам усё ў парадку, калі верыць той статыстыцы. Тады ў чым жа справа, чаму прымаюцца рашэнні райвыканкама, якія супярэчаць Канстытуцыі? Адукацыя, як бачым, пацíху ператвараецца ў платную. То на ваджэнне вучэбнай тэхнікі не хапае сродкаў, то на падручнікі. Што ж далей будзе з нашай адукацыяй? Якой яна будзе — платнай ці бясплатнай?

БАРАНОВИЧИ

### "АА" — панацея от пьянства

Даже врачи-наркологи считают, что алкоголизм — неизлечимая болезнь. "Завязав" пить, пьяница держится иногда до года. Пока не наступит роковой момент "первой рюмки". Ученые-медики всего мира бьются над решением этой алкогольной загадки. И, кажется, нашли. Лечить, оказывается, надо не только организм, но и душу.

По этому пути пошли священнослужители дома Святой Троицы в Барановичах. Католический священник Ежи Мазур несколько лет назад организовал общество "Анонимные алкоголики". Для работы с больными был приглашен из Минска отец Игорь, имевший опыт по созданию таких объединений.

Не очень охотно, скорее из любопытства, шли сюда пьяницы. Сначала это были католики. Но принимали всех. Душевные беседы, психологическая и, порой, материальная помощь делали свое дело. Вокруг алкоголиков создалась благоприятная атмосфера. Наставники перевоспитывали отношение к пациенту в его семье, на работе. "Однодумцы" помогали друг другу переодолевать кризис все той же "первой рюмки". Не все бросили пить. Из 50 членов общества 15 навсегда забыли о спиртном. Некоторые, сорвавшиеся, возвращаются и вновь пытаются выбраться из пьяного болота.

"АА", конечно, не панацея от пьянства, но даже эти несколько человек, избавившихся от мучительной тяги к вину, оправдывает ее существование.

БЯРОЗА

### Дажынкі рыхтуй вясною...





Яшчэ ў полі шчыруе сейбіт і толькі закладвае будучы ўраджай, а бярозаўскае кіраўніцтва ўжо ў гэтыя дні жыве дажынкамі, бо менавіта тут вырашана правесці абласное свята ўраджаю. І не важна, якім будзе ўраджай сёлетняга года, а перадавікі заўсёды знойдуцца. Сядзе, напрыклад, Васіль на новы "Дон" і пакажа рэкордныя намалоты. А Іван на сваім старым "Доне" як ні будзе пацець, а ў перадавікі не выйдзе, бо або тэхніка "схопіць" у жняярку якую-небудзь жалязяку, або будзе прастойваць з-за адсутнасці транспарту для адвозкі збожжа. Бог, як кажуць, дзеліць няроўна. Камусьці пашчасціць атрымаць дарагі падарунак, а большасць жа хлебаробаў застанецца ні з чым.

Мы ніяк не навучыліся жыць без паказухі і пампезнасці. Ёсць дажынкі ў кожнай гаспадарцы — не, трэба яшчэ абласныя, рэспубліканскія. Не лепш было б сродкі, затрачаныя на іх, падзяліць сярод хлебаробаў. Не сакрэт, што на жніве лайдакоў няма, бо кожны стараецца па магчымасці больш зрабіць і больш зарабіць.

Немалыя сродкі выдзелены на добраўпарадкаванне Бярозы. Жалезная ажурная агароджа, выробленая на Белаазёрскім энерга-механічным заводзе, устаноўлена ўжо каля базавай школы, дзіцячага парка, упраўлення гарадской гаспадаркі. Цяпер гэтыя работы вядуцца у цэнтральным парку.

Што ж, горад упрыгожваць трэба. І наўрад ці хто з кіраўнікоў горада здагадаецца адпусціць частку грошай на рэканструкцыю Чырвоных казарм. Пусцеюць вялікія цагляныя хароміны ўжо не год і не два.

*НА ЗДЫМКАХ: добраўпарадкоўваецца бярозаўскі парк; адзін з цёмных гмахаў Чырвоных казармаў (нядаўна тут загінуў чалавек) — ці дойдзе сюды кампанія ўпарадкавання?*

*А. ГАНЧУК.*

### "Чарнобыльскі шлях" вачыма сведкі

Не простая цікаўнасць — покліч душы прымусіў прыняць удзел у "Чарнобыльскім шляху", які арганізавала апазіцыя і які адбыўся 25 красавіка ў Мінску.

У 16.30 на Плошчы Я. Коласа пачаў збірацца народ. У паветры лунaлі бел-чырвона-белыя сцягі, было шмат транспарантаў, лозунгаў з не самымі прыемнымі для сённяшніх улад надпісамі.

Рушылі ў 17.00. У галаве калоны лідэры апазіцыі — Л. Баршчэўскі, Ю. Хадыка, Г. Карпенка, Ю. Захаранка, С. Шарэцкі.

Адразу заўважаецца, што дэманстрацыя не стыхійнае выступленне, а добра арганізаванае мерапрыемства. Прычым з розных бакоў. Міліцыя, напрыклад, ачапіла калону з усіх бакоў, быццам вяла зняволеных ці якіх небяспечных злачынцаў. Хаця лозунгі, якія скандзіраваліся і разносіліся рэхам вакол, сапраўды былі небяспечнымі для сённяшніх уладаў. "Жыве Беларусь", "Беларусь у Еўропу", "Чамадан, вакзал, Расія" — непрыемныя, жахлівыя словы для кіраўнікоў самага высокага рангу.

...На мітынгу, які адбыўся насупраць Опернага тэатра, шмат гаварылі пра чарнобыльскія наступствы, духоўны Чарнобыль, гаварылася пра пагрозу фашызму ў рэспубліцы.

Асабліва запомніліся выступленні Л. Баршчэўскага, С. Шарэцкага, Г. Карпенкі, М. Статкевіча. Кожнага прамоўцу простыя людзі сустракалі і праводзілі апладысментамі...

...Як стала вядома пазней, група дэманстрантаў усё ж такі была схоплена ўвечары міліцыянтамі і даставлена ў пастарунак.

## Майор А. КОСОВЕЦ: "Отслужи как надо!"

*Как известно, с 31 марта 1998 года в соответствии с Указом Президента РБ начался призыв граждан 1971—1980 г. р. на срочную военную службу. Эту тему с начальником 2-го отделения Ивацевичского РВК, майором А. А. Косовцом обсуждает корреспондент "Газеты для вас" А. ГОРБАЧ.*



**— Александр Александрович, несколько слов о нынешнем призыве, который, как известно, уже идет.**

— В Ивацевичском районе зарегистрировано 378 человек, которых нынешней весной должны призвать на срочную военную службу. Призыв в этом году проходит в обычном режиме, спокойно, без срывов. Сроки службы те же.

**— Тогда скажите: как настроена молодежь на службу в настоящее время? Не присутствует ли пессимизм? В последнее время ведь об армии лестных слов не услышишь.**

— Все, что говорится в последнее время об армии, на мой взгляд, не совсем соответствует действительности. Если в армейской жизни случаются некоторые сбои, то, простите, с кем они не случаются. В любой армии мира происходят ЧП, и мы не можем быть исключением из правил. К сожалению, некоторые журналисты смотрят на армию необъективно, без любви. А ведь наша армия — наш защитник.

**— Значит настрой у молодежи боевой...**

— В общем — да. Наша молодежь нравственно здорова.

**— А физически?**

— Со здоровьем у призывников вообще-то проблемы.

Тут, надо полагать, сыграла свою неблагодарную роль авария на Чернобыльской АЭС. Наиболее типичны заболевания щитовидной железы, зоба, сердца, проблемы есть и с давлением. За последнее время призывник стал более хилым, надо признаться.

**— Служба проходит обязательно на территории РБ?**

— Обязательно. Больше того, учитывается и то же состояние здоровья, морально-деловые качества и семейное положение. Если призывник женат или у него мать-одиночка — как можно не пойти навстречу. Стараемся помочь в такой ситуации с местом службы, т. е. определить призывника поближе к дому.

**— А профессия офицера? Прельщает она сегодня молодых людей?**

— Прельщает. Очень многие выбирают эту профессию по наследству, учитывая и уважая родительскую службу, службу близких родственников. Выбирают и суворовские училища. Набор в них идет уже с пятого класса.

**— В жизни сегодняшней армии играют роль и родители, и созданные ими комитеты. Присутствуют ли контакты между командирами частей и родителями наших призывников?**

— Присутствуют. Как только призывник попадает в часть, оттуда идет родителям сообщение, где служит молодой солдат, кто командует его частью. Армия не прячется от родителей солдата.

**— О помощи... Кому бы вы сказали спасибо!**

— Районной организации БПСМ. Они с пониманием относятся к проблемам службы в Вооруженных Силах. Этот союз организует для призывников выезды в воинскую часть, помогает в организации Дня призывника — осенью и весной, выступает с лекциями перед молодежью. Спасибо им.

ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

# СВАЁ ДРЭВА ЖЫЦЦЯ



**На гэтым здымку вы бачыце чалавека ў форме работніка лясной гаспадаркі. Спакойны і шчыры позірк, трошкі задумены. І ёсць ад чаго. Іван Мікалаевіч Кірылаў, былы памочнік ляснічага Барэцкага лясніцтва, літаральна некалькі дзён таму, як пайшоў на заслужаны адпачынак.**

**40 гадоў на адной пасадзе, сорак гадоў на адным месцы — хіба гэта не працоўны і чалавечы подзвіг. Трэба ж вельмі любіць сваю прафесію, каб быць верным сабе, не спалохацца ні першых цяжкасцей, ні перашкод, і нягледзячы ні на што, быць адданым свайму абавязку.**

**А пачатак прафесіі пачынаўся таксама незвычайна. Так склалася жыццё, так лёс распарадзіўся, што, прыехаўшы на Брэстчыну, Кірылаў тут глыбока пусціў свае карані, якія і знайшлі добрую і спрыяльную глебу.**

**Тут, на новым месцы (а гэта ў райцэнтры, у горадзе Івацэвічы) Іван Мікалаевіч ажаніўся, пабудаваў сабе новы дом, словам, стаў сямейным чалавекам, самастойным гаспадаром, пасадзіў ля хаты на тым невялікім пляцу невялікі сад, які штогод радуе і яго, і дзяцей, і ўнукаў сваімі пладамі і гароднінай.**

**Але аб усім па парадку.**

1.

Ёсць на Гомельшчыне невялікі гарадок Буда-Кашалёва. Як і ўсе райцэнтры, ён нічым не прыкметны. Як і ўсе райцэнтры, асабліва да вайны, ён выглядаў, як вялікае сяло: тыя ж вясковыя хаты, тыя ж падворкі. Толькі ў цэнтры, дзе размяшчаліся райкам партыі і райвыканкам, узвышаўся двухпавярховы цагляны будынак. На адной з вуліц Буда-Кашалёва і жыла сям'я Кірылавых. Іван быў самым апошнім у сям'і. Яму споўнілася толькі два тыдні, як памерла маці. Немаўля даглядала старэйшая сястра Наташа. Колькі на яе долю выпала цяжкасцей, адзін Бог ведае. Не сакрэт, што для малога дзіцяці патрэбна матчына ласка і матчын догляд. Сястра змагла (можа не зусім замяніць маці) выгадаваць брата, аддаць яму цяпло сваёй душы і сэрца, і ўзнагародай ёй за гэта было першае слова, сказанае братам: «Мама!» Не пераказаць, што адчувала дзяўчына ў такі момант, яшчэ не стаўшы сапраўднай маці.

Гэта перажыла Наташа. А Іван колькі жыць будзе, столькі і будзе ўдзячны ёй, што менавіта яна, сястра, стала ягонай маці і выгадавала яго.

Да сямі гадоў Іван знаходзіўся, калі можна так сказаць, пад мацярынскай апекай сястры. Дапамагалі, вядома, сястра Каця, брат Якаў. Калі пачалася вайна, бацьку схапілі немцы. Ён знаходзіўся ў Бабруйскім лагеры, там і памёр.

І вось на сямейнай радзе аднагалосна рашылі аддаць Івана на выхаванне ў дзіцячы дом. Чаму вынеслі такое рашэнне? Па-першае, у кожнага члена сям'і стваралася свая сям'я. Але і гэта не галоўнае. Хацелася, каб брат, нягледзячы на ўсе пасляваенныя цяжкасці, закончыў школу. Па-другое, брат Якаў пачаў вучыцца ў рамесным вучылішчы ў Брэсце. А Івана ўладкавалі ў Косаўскі дзіцячы дом. Гэта было ў 1947 годзе. І Якаў, як дамовіліся, часта наведваў свайго брата ў Косаве.

2.

Пра тыя сем гадоў, пражытыя ў Косаве, Іван Мікалаевіч можа расказваць гадзінамі. Дзяцінства, пражытае па сутнасці ў чужым доме, хаця было прынята пры савецкай уладзе, што дзяржаўны дзіцячы дом замяняе бацькоўскі, ніколі не выветрыцца з памяці, бо такое не забываецца: і вучоба, і жыццё па сутнасці адной сям'ёй з аднагодкамі, і настаўнікамі, і выхавацелямі. Былі сярод іх сапраўды чулыя, спагадлівыя і па-мацярынску клапатлівыя выхавацелі, але такіх, як сястра, яна ж і мама Наташа, не было. З жалем успамінаў аб гэтым Ваня. Не раз, седзячы на ложку, ціха плакаў ад успамінаў пра сваіх родных, пра сваю няшчасную долю. Але што зробіш, сваю гісторыю нараджэння назад не адкруціш, не вернеш, трэба жыць і неяк уладкоўваць сваё жыццё самому. Гэта ўсведамленне прыходзіла не адразу, але яно прыйшло, каб прадоўжыць свой жыццёвы шлях. І брат Якаў, які часта прыязджаў у Косава, падтрымліваў Івана, усяляў у яго надзею на лепшае. І як бы ні было цяжка, асабліва маральна, Ваня не адчайваўся, не губляў веры. Гэта адна з тых рысаў характару, што дапамагла хлопцу знайсці сваю дарогу.

Пасля заканчэння сямігодкі Іван падаўся ў Буда-Кашалёва да сястры і не пад яе крыло, каб неяк пражыць, а каб паступіць у мясцовы лясны тэхнікум. Выбіраў прафесію па прынцыпу: дома лягчэй паступіць і, вядома, пражыць. Але несвядомы выбар аказаўся па душы хлопцу. Можа, таму, што з дзяцінства любіў лес, сад і агарод і не грэбаваў ніякай працай. А пабываўшы на практыцы ў Івацэвіцкім лягсасе, канчаткова ўпэўніўся, што ягоны выбар правільны, бо тое, чым ён займаўся ( а гэта ўсё звязана з лесам) не толькі цікава знешне, а мае свае асаблівасці, бо мае справу з зялёным сябрам, які, не сакрэт, дапамагае чалавеку ва ўсім. Хто аб гэтым задумваўся, той можа не сумнявацца.

Атрымаўшы дыплом тэхніка-лесавода, Іван Кірылаў у 1958 годзе папрасіўся сюды, у Івацэвіцкі лягсас, на працу. Як-ніяк, амаль побач у Косаве пражыў сем гадоў плюс практыка, таму прывыкаць да тутэйшых мясцін не прыходзілася, яны сталі ўжо нейкімі блізкімі, а іншых мясцін шукаць проста не хацелася, можна памыліцца з выбарам.

3.

Такім чынам Іван Кірылаў апынуўся ў Барэцкім лясніцтве. Два гады працаваў леснікам-лесаводам, а з 15 снежня 1960 года быў прызначаны памочнікам ляснічага. На гэтай пасадзе дапрацаваў да пенсіі.

— Як хутка прабеглі гады, — з жалем гаворыць Іван Мікалаевіч. — Можа, таму, што ў штодзённых клопатах. Можа, таму, што лес, увесь раслінны свет стаў для мяне сэнсам жыцця...

А я хацеў бы дадаць, што не толькі сэнсам жыцця, а нечым большым, бо не кожны вытрымае, не кожны палічыць патрэбным столькі гадоў быць на адным месцы і на адной пасадзе — не вышэй і не ніжэй. А Іван Мікалаевіч лічыў і лічыць сваю пасаду, калі не галоўнай, то вельмі важнай у лясніцтве. Ён адзіны памочнік ляснічага на ўсіх яго справах — і вытворчых, і выхаваўчых. Штодня ён то ў лесе сярод людзей, то за сталом у лясніцтве разбіраецца са штодзённымі справаздачамі, скрупулёзна, да дробязей, каб адразу было відаць, што зроблена, колькі і што ўпушчана і кім. Гэта не прыхамаць Івана Мікалаевіча, гэта сапраўдная, творчая, гадамі апрабаваная навука ўліку і справаздачнасці.

Кантрольная кніга аб ходзе выканання вытворчага плана, удасканалена Кірылавым да такой ступені, што стала сапраўды настольнай кнігай у кожным лясніцтве Івацэвіцкага лягсаса. Яна ўжо аддрукавана ў мясцовай друкарні і паступіла ў карыстанне спецыялістам.

Яшчэ ў 1985 годзе Іван Мікалаевіч прапанаваў Міністэрству лясной гаспадаркі тады яшчэ Савецкага Саюза новыя мадэлі кніг шнуравой па ўліку лесасек, кніг уліку і садзення натуральнаму ўзнаўленню лесу. Іх ухвалілі, але зацвердзіць і прыняць да ўкаранення на месцах не паспелі. Саюз развалíўся — лёс кніг застаўся невядомым у саюзным маштабе, хаця ў Барэцкім лясніцтве яны вядуцца і з'яўляюцца люстэркам вытворчай дзейнасці калектыву.

Гаворачы аб працоўнай дзейнасці Івана Мікалаевіча, трэба падкрэсліць такую акалічнасць. 38 гадоў запар, штогод Кірылаў тры месяцы, акрамя ўласнай работы, замяняў яшчэ спярша ляснічага, а потым бухгалтара, якія знаходзіліся ў водпусках. Прытым бясплатна, без усялякага заахвочвання. Хто б так змог, адказаць цяжка. Але факт застаецца фактам, што Іван Мікалаевіч быў не проста памочнікам ляснічага, а ўніверсальным работнікам, дасканала авалодаўшы і сумежнымі прафесіямі. І з такім прафесіяналам калектыву расставацца было не вельмі проста. Што ж, прабіў той год і час, калі расстанне непазбежнае. Сваё адрабіў, сваё адхадзіў — і развітаўся са сваёй працай, са сваім калектывам...

4.

Яшчэ ад сябе хацеў сказаць — са сваім лесам. Але мне не дазволіў Іван Мікалаевіч.

— З лесам я не развітваўся, — падкрэсліў ён. — З лесам я застаюся, пакуль жыву, пакуль хаджу...

Як з добрым і даўнім прыяцелем, Кірылаў сустракаўся і сустракаецца са сваім зялёным сябрам. За што і калі ён любіць лес? У кожнай пары года ёсць свая адметнасць, свая чароўная прыгажосць. Варта толькі прыгледзецца і прыслухацца, і тады адкрыецца перад табой дзіўны свет жыцця гэтых казачных асілкаў: вынасістых соснаў і елак, трапятких і шумлівых асін, неспакойных і ўдумлівых векавых дубоў і нібы гатовых да першага шлюбу, убраўшыхся ў зялёны вэлюм, беластволых бяроз...

Сапраўды, цікава. Бо ў душы Івана Мікалаевіча захаваліся самыя шчырыя і прыязныя адносіны да кожнага дрэва і дрэўца, якой бы пароды яно не было і дзе б яно ні расло.

— А вось да бярозы я нібы сэрцам прырос, — разважае Кірылаў. — Мо таму, што, як мне здаецца, гэта своеасаблівы сімвал радзімы, роднай Беларусі. Дзе б я ні быў, куды б я ні ездзіў, усюды, як убачу беластв лую прыгажуню, ва мн. ўсё ажывае і здараецца, што таго не хочучы, ногі самі ідуць да яе, каб дакрануцца рукой, пачуць, прыклаўшы вуха да ствала, як бягуць жыватворныя сокі, як сваёй цудатворнай энергіяй яна напаўняе тваю душу...

Ад такой споведзі і сапраўды пачынаеш верыць у магутную сілу прыроды, міжвольна звернеш увагу на зялёнае цуда, што цягнецца да сонца і, як чалавек, імкнецца да святла і цяпла.

Так і Кірылаў, звязаўшы свой лёс з лесам, ужо ніколі не быў і не будзе ў адзіноце. Хаця дзеці (а іх у Івана Мікалаевіча трое) і восем унукаў, забываюць свайго бацьку і дзядулю; а Клаўдзія Сяргееўна, верная жонка і спадарожніца жыцця, заўсёды побач. Без яе дапамогі наўрад ці змог бы Кірылаў здзейсніць усё задуманае, усёй душой далучыцца да прыроды, бо знайсці сваё дрэва жыцця, відаць, наканавана лёсам.

*С. КАЖАДУБ.*

*Барэцкае лясніцтва Івацэвіцкага раёна.*

*НА ЗДЫМКУ: І. М. Кірылаў.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

КОНКУРС — "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

## Я спяшаюся дадому...

Я даволі часта езджу
Па далёкаму замежжу
І заўважыў,
што ў Нямеччыне
Людзі добра забяспечаны.

Толькі мне адтуль, вядома,
Так і хочацца дадому.
Што мне тыя
"Мерседэсы"!
Я і полем, я і лесам
Уцякаю ад тугі
У родны край
свой дарагі.

Па марам і па ўзбярэжжу
Я таксама часта езджу.
І калі б жыць у Італіі
Раптам мне
прапанавалі бы —

Усероўна я, вядома,
Заспяшаўся бы дадому.
Нашы рэчкі і азёры
Прыгажэй за тыя моры
І за тыя берагі...
Край мой родны!
Дарагі!

Мноства цудаў у замежжы,
Як у цырку на манежы...
Можа хтосьці і намерыцца
Вечна жыць там
у Амерыцы —
Ну, а я ізноў, вядома,

Заспяшаюся дадому,
Бо прылашчыць
і расчуліць,
І заўжды мяне прытуліць
Край мой родны, дарагі.
І не трэба мне другі!

## Маўчаць загадкава лясы...

На свеце — мноства навіны,
А год за годам —
дабаўляе.
Затое тайны даўніны
Не кожны сённячы ўяўляе.

І толькі пра былое сны
Прысніць адвечны бор
сасновы,
Ды там на ўзлессі валуны —
Акамянеўшыя галовы.

Але ў часы якой вайны
З якіх плячэй яны зляцелі?
За што змагаліся яны?
Чаго ў сваім жыцці хацелі?

Маўчаць загадкава лясы —
Гадоў былых жывыя сведкі...
А ўздоўж дарожнай паласы
Красуюць бясклапотна кветкі.

*Алесь КОРНЕЎ.*
*г. Баранавічы.*

